# КРЫВІНКА

КАСТРЫЧНІК
№15 (223)
2018 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## НАША СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

**У Бешанковіцкім раёне на сёння засталося сем вялікіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў: “Наватар”, “Палітаддзелец”, “Свіціна”, “Вядзерава”, “Дразды”, “Бешанковіцкі аграсервіс” і “Плісы”. На іх прыходзіцца 28 000 га ворыўнай зямлі. І добрая траціна гэтай зямлі прыходзіцца на “Наватар”.**

Больш-менш на плаву з сямі гаспадарак толькі першыя чатыры. У дзвюх апошніх справы ідуць пусцыпавалюся, хаця тут праводзіцца сяўба і бітва за ўраджай, а таксама выпасаецца жывёла. Але паказнікі ўраджайнасці і прадукцыйнасці жывёлы тут чамусьці застаюцца на роўні 19-га стагоддзя.

У гэтых гаспадарках хранічна бракуе спецыялістаў. Тут як паветра неабходныя заатэхнікі і ветэрынары, загадчыкі фермаў і эканамісты. Ды што казаць, сёння ў “Бешанковіцкім аграсервісе”, гаспадарцы, што раскінулася ад Сокарава да Свячы, няма нават кіраўніка і намесніка. Практычна ўсе спецыялісты адсутнічаюць у дзяржаўным прадпрыемстве “Плісы”. Летась па вясне там назіралася страшэнная карціна, калі кароў, якія выглядалі як шкілеты, выганялі на пашу. Ад турмы кадраў гэтай гаспадаркі “ратуе” яе аддаленасць ад цэнтра, бо туды не даязджаюць журналісты, каб адкрыць грамадскасці вочы на жахлівыя факты.

Нармальныя людзі ў такія гаспадаркі работаць не пойдуць: каму хочацца сесці ў турму? Калі хтосьці трапляе туды па размеркаванню, ён уцякае адтуль любым спосабам праз колькі месяцаў. У гэтых гаспадарках бракуе і кадраў рабочых прафесій. Тут зачыненыя большасць сацыяльных установаў. Карацей кажучы, ад поўнага калапсу іх ратуе толькі воля Божая. Калісьці кіраўнікі раёна Л.Пянькоўскі, а потым і А. Булаўкін абяцалі ўзняць “Плісы” з руін і попелу, але ўсё закончылася гучнымі заявамі. “Прычапіць” гэтыя гаспадаркі да суседзяў ужо не атрымаецца, бо пад іх цяжарам суседзі і самі загнуцца.

Выйсце адно: любым шляхам знайсці ўласніка, які б не пабаяўся ўзяць гэту зямлю і людзей.

**Г.Станкевіч**

З СУДОВАЙ ЗАЛІ

## СКРАЎ З ФЕРМЫ БЫЧКА

**Першы намеснік старшыні Ушацкага райвыканкама падазраецца ў выкраданні з фермы бычка. Гэта выкрыла праверка Наваполацкага міжраённага аддзела ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантроля па Віцебскай вобласці. Яна праходзіла ў жніўні-верасні.**

Высветлілася, што чыноўнік распрацаваў план вывазу жывёлы з сельгаспрадпрыемства ў сваю фермерскую гаспадарку. Ён перадаваў службовым асобам прадпрыемства вакцыну для ўсыплення бычка.

Прэс-служба Камітэта дзяржаўнага кантроля адзначае, што да здзяйснення злачынства першы намеснік старшыні райвыканкама прыцягнуў чатырох работнікаў сельгаспрадпрыемства. Сярод іх — загадчыца фермы, якая падабрала бычка і кантралявала яго перавозку, кіроўца аўтамабіля, ветэрынарны лекар, якая ўсыпляла жывёлу (кошт бычка складае больш за 1 тысячу рублёў). У адносінах гэтых людзей распачалі крымінальную справу, артыкул — "крадзеж, шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі". У адносінах чыноўніка райвыканкама справу распачалі па артыкуле "Перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў". Яму пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад 3 да 10 гадоў. Дарэчы, першы намеснік старшыні райвыканкама звольнены з працы, ён знаходзіцца пад вартай.

Адзначаецца, што ўсе фігуранты справы сваю віну прызналі і цалкам кампенсавалі страты, нанесеныя сельгаспрадпрыемству. Падчас праверкі высветлілася, што знікла 70 галоў буйной рагатай жывёлы. Праводзіцца расследаванне.

**Еўрарадыё**

## *КАСТРЫЧНІК*

*Дзень пасьля раўнадзеньня*
*імкліва імчыць пад адхон,*
*ноч пасьля раўнадзеньня*
*пра вечнае царства мроіць.*
*І не зьменіцца гэта –*
*такі ў прыроды закон,*
*а паратунак-выйсьце*
*толькі ў моцным напоі.*

*Вось я і п’ю штовечар*
*коктэйль з далёкіх зор,*
*смакую ўраздроб і цалкам*
*поўныя чары – залпам.*
*І пасьля кожнай чары*
*так паласьне лязом,*
*што сэрца, нямое сэрца*
*крыкам крычыць ад гвалту.*

*Сёньня туман спусьціўся*
*знекуль з падзорных далін,*
*ціха прылёг на полі*
*на залатое ржышча.*
*І, пакуль ранак на ўсходзе*
*неба ізноў запаліў,*
*зьнічкі ў яго зьляталі,*
*як залатыя жычкі.*

*А калі сонца прачнулася*
*і разгарнула свой сьцяг –*
*дзень распачаўся новы*
*поўны надзей чульлівых.*
*І, пакуль вока хапала,*
*дыхаў свабодай абсяг,*
*і кветка апошняя восені*
*ўсьміхалася мне шчасьліва.*

***Г.Станкевіч***



СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## ДАЖЫНКІ: ГУЛЯЦЬ ЦІ ПЛАКАЦЬ?

**28-га верасьня ў Верхнядзвінску прайшлі абласныя «Дажынкі».**

На іх прысутнічала і дэлегацыя з Бешанковічаў. Праўда, пераможцам жніва Бешанковіцкі раён не стаў. Хаця Ульскі дзяржаўны прафесійны ліцэй сельскагаспадарчай вытворчасці ім. Л. М. Даватара атрымаў як падзяку “за значны ўклад у павышэнне якасці і даступнасці адукацыі, за ўклад у развіццё патэнцыялу моладзі і яе далучэнне да грамадска карыснай дзейнасці” новы трактар «Беларус-82».

Раёны, а таксама асобныя сельгаспрадпрыемствы і працаўнікі вёскі, якія вызначыліся ў ходзе ўборачнай кампаніі, атрымалі грашовыя прызы. Многія за працоўныя поспехі ўзнагароджаны новай тэхнікай. Пераможцам абласнога спаборніцтва ў жніве збожжавых стаў Віцебскі раён, другое месца ў Верхнядзвінскага раёна, трэцяе – у Полацкага.

Бешанковіцкі раён і не мог быць у пераможцах, на маю думку, па прычыне вельмі нізкай якасці ўборкі. Пераканацца ў праўдзівасці гэтых словаў яшчэ не позна. На тых палях, якія яшчэ не зааралі, скрозь буяюць усходы згубленага зерня, як відаць на здымках, што зробленыя каля самай дарогі Мінск - Віцебск блізу Вяжышча і размешчаныя на сайце beshankovichy.by.

Прычыны гэтых страт розныя. Гэта і нездавальняючая шторанічная падрыхтоўка камбайнаў, і высокія хуткасці пры іх працы на полі. Але галоўная прычына страт, мусіць, – сама канструкцыя камбайнаў. У тых раёнах, дзе ёсць імпартныя аналагі нашых "Гомсельмашаўцаў", ураджайнасць значна вышэйшая.

Скажам, ў гаспадарцы «Заазер’е» Лепельскага раёна Леанід Аляксеенка і Павел Ханяк усталявалі абсалютны рэкорд сёлетняй уборачнай, намалаціўшы 4412 тон збожжа. Як піша газета "Лепельскі край", "дасягнуць высокага выніку ўдалося дзякуючы прафесіяналізму работнікаў, а таксама выдатнай тэхніцы — экіпаж працуе на сучасным камбайне “New Holland CR 9.80”. За адзін дзень камбайн праходзіць каля 67 гектараў і ўбірае прыблізна 283 тоны збожжа. Калі 29 ліпеня ў 19.00 было ўбрана 1006 тон, то ўжо раніцай 30 ліпеня было намалочана 1087 тон збожжа.

Паспяховаму ходу ўборкі садзейнічае і выдатнае надвор’е. Аказваецца, адным надвор'е спрыяла пры жніве, а другім капрызьнічала. Адны мелі высокія намалоты дзякуючы спрыяльнаму надвор'ю, а другія ж вялі бітву за ўраджай у неспрыяльных умовах.

**М.Васільеў**

НАША РАДЗІМА

## ТЫСЯЧЫ НЕЖЫЛЫХ ВЁСАК

**Чарговы раз выбіраючыся ў дарогу на сваю малую радзіму, на поўнач Шчучынскага раёну, набыў новую тапаграфічную мапу гэтага рэгіёну. Сядаючы за руль, вырашыў больш уважліва прыглядзецца да вядомых змалку дарог і назваў вёсак. Што найбольш уразіла: па якой дарозе ні едзь, абавязкова будзеш мінаць якую-небудзь вёску, побач з назвай якой на мапе — пазнака: «нежыл.» — значыць, нежылая, цалкам абязлюдзелая.**

**«Населеныя пункты без насельніцтва»**

І колькі ж іх тут — адна, другая, трэцяя... Ва ўсім раёне налічыў каля трох дзясяткаў. Але лічба яўна недакладная, няпоўная. Добра ведаю, што многія з тых вёсак і хутароў, якія нібыта лічацца населенымі, насамрэч таксама ўжо даўно «нежыл.».

Якія рэальныя маштабы гэтай зьявы ў сёньняшняй Беларусі? Зазірнем у вынікі апошняга нацыянальнага перапісу (2009 году). Ёсьць там радок з трохі дзіўнай назвай: «Населеныя пункты без насельніцтва». Усяго такіх у Беларусі значылася 1395. У рэальнасьці ж сёньня, празь дзевяць год пасьля перапісу, — значна болей.

5843 — столькі ў Беларусі напрыканцы «нулявых» было вёсак і хутароў, насельніцтва якіх складала 10 чалавек і меней. Зусім верагодна, што сотні (калі ня тысячы) іх за прамінулыя гады таксама перайшлі ў разрад «нежыл.».

Ботэндэнцыя тут нязьменная і жорсткая. За 10 год (1999–2009) колькасьць вёсак, у якіх меней за 10 насельнікаў, павялічылася ў Беларусі з 3970 да 5843. І відавочна, што менавіта гэтыя паселішчы — найпершыя кандыдаты на хуткае сканаsucceed.

...Гэта цяжкая, гнятлівая, сумная вандроўка. Вёскі, якія ты памятаеш поўнымі жыцьця, гаспадарскіх клопатаў, жывых гукаў і колераў, — ператварыліся ў прывіды. Спарахнелыя зрубы, пахілыя агароджы, зарослыя агароды, зьдзічэлыя сады. Ёсьць нешта ад канца сьвету ў гэтай карціне агульнага заняпаду і запусьценьня.

**Урбанізацыя па-беларуску**

Нехта скажа: урбанізацыя — усясьветная тэндэнцыя, чаго тут шкадаваць аб тым, што немагчыма ўратаваць. Так, безумоўна. Але, здаецца, мала дзе ўрбанізацыя


*(працяг на стар. 2)*

НАША РАДЗІМА

*(пачатак на стар. №1)*

суправаджаецца такім гаспадарчым занядбаньнем тых мясьцінаў, якія пакідаюць людзі. Гэта ўздоўж бальшакоў, вялікіх дарог, па якіх зрэдзьчасу праяжджае начальства, пакуль што апрацоўваюцца палеткі, скошваюцца сенажаці. Але збочце з шашы, праедзьце па грунтавых дарогах углыб той Беларусі, якую даўно пакінулі людзі. Там, дзе дваццаць-трыццаць год таму расьлі жыта і ячмень, дзе пасьвілі кароў і нарыхтоўвалі сена — тысячы і тысячы гектараў аблогу, які пакрысе зарастае хмызьняком, дзічэе, забалочваецца.

Чаму зусім па-іншаму адбываецца тая ж урбанізацыя за некалькі дзясяткаў кілямэтраў адгэтуль, у суседняй Польшчы? Чаму там няма тысячаў вёсак з пазнакай «нежыл.» і соцень тысяч гектараў былых ворыўных земляў, ператвораных у хмызьнякі?

А найперш таму, што там — прыватная ўласнасьць на зямлю. І зямля знаходзіць свайго новага гаспадара, нават калі гаспадар ранейшы зь нейкіх прычынаў яе пакінуў. У Польшчы нават тыя ўчорашнія вясковыя жыхары, якія пакінулі вёску і не прадалі свае надзелы, часта знаходзяць магчымасьць апрацоўваць зямлю, якая дасталася ў спадчыну. І зусім ня толькі з настальгічных матываў. Гэта прыносіць немалы прыбытак, у тым ліку і дзякуючы дзяржаўным датацыям, якія налічваюцца на кожны гектар апрацаванай зямлі.

**Хто ня сьпіўся — паўцякалі**

Аляксандар Лукашэнка як чалавек вясковы, відавочна, усьведамляе вастрыню праблемы і перажывае за лёс сваёй малой радзімы. Вунь як непазнавальна зьмянілася вёска Александрыя Шклоўскага раёну за апошнія 25 год. Тут табе і спартыўны комплекс з басэйнам, і прыгожы гатэль, і сучасны вакзал, і аб'язная дарога, і новая школа... Што адметна: спарткомплекс на 2200 чалавек, а ў вёсцы — толькі каля 500 жыхароў.

Ня быў бы Лукашэнка прэзыдэнтам — што чакала б тую Александрыю? Хутчэй за ўсё, тое самае, што і сотні іншых падобных беларускіх вёсак, дзе ня тое што басэйнаў, гатэляў і аб'язных дарог — не засталося нават сяльпоўскіх крамаў, разваліліся калгасы, а апошнія працаздольныя жыхары, хто ня сьпіўся, паўцякалі на заробкі ў Расею ці Польшчу. Пранікнёна і настальгічна гаварыў Лукашэнка аб прыцягальнай сіле роднай вёсачкі, абвяшчаючы сёлета ў лютым Год малой радзімы. Ідэя кіраўніка краіны — у тым, каб тыя пасьпяховыя і заможныя беларусы, якія ў свой час паўцякалі з родных вёсак, «аддалі доўг гэтаму кавалачку зямлі» — «хто як можа і хто колькі можа». У якасьці стымулу абяцана: тыя, у каго ёсьць магчымасьць адбудаваць і адрадзіць гэтыя вёсачкі, няхай назавуць іх сваім імем.

Пазьней, у сярэдзіне году, пляны былі адкарэктаваныя: Год малой радзімы працягнуты яшчэ на два гады. Як абгрунтоўваў гэта Лукашэнка, «недзе камусьці трэба і грошы зарабіць, каб сваю малую радзіму ўкласьціся»...

**Такім чынам, абвешчана «трохгодка»**

Як імітаваць рашэньне праблемы, не ўкладаючы ў гэтае рашэньне ні рубля? Калісьці гэткім шляхам у СССР ішоў камуністычны рэжым. Напрыклад, ва ўсёй краіне ўрачыста абвяшчалася «пяцігодка эфэктыўнасьці і якасьці». Усім было зразумела, што і з эфэктыўнасьцю, і зь якасьцю ў краіне справы дрэнь. І вырашаць праблему трэба было інвэстыцыямі і эканамічнымі рэформамі. Але паколькі грошай на інвэстыцыі не было, а праводзіць рэформы — небясьпечна для трываласьці рэжыму, абмяжоўваліся прапагандысцкімі кампаніямі. Выдаткі — толькі на прыгожыя лёзунгі і заклікі. Праўда, і рэальны эфэкт быў адпаведны: практычна нулявы.

Так і тут. Разьлік — не на рэформы і не на інвэстыцыі, а на настальгічныя пачуцьці заможных беларусаў, якім павінна стаць сорамна за стан сваіх паміраючых вёсак і якія, кіруючыся пачуцьцём грамадзянскай адказнасьці, укладуць уласныя грошы, каб удыхнуць жыцьцё ў занядбаную малую радзіму. Лукашэнка ж вунь як адрадзіў сваю родную Александрыю! А чаму вы ня можаце?

...Тых, хто наведвае вядомы мэмарыяльны комплекс «Хатынь», нязьменна ўражвае і эмацыйна ўзрушае ўдалая знаходка архітэктараў і скульптараў — адзіныя ў сьвеце «Могілкі вёсак». Гэта сымбалічнае папялішча з назвамі 185 беларускіх вёсак, якія не адрадзіліся пасьля вайны. Шэраг за шэрагам — чорныя літары назваў, жалобныя урны зь зямлёй зьнішчаных вёсак. Адразу разумееш і ўсьведамляеш маштаб трагедыі... Дык тое — вайна, надзвычайныя абставіны. А тут — у мірны час, штогод сотні паселішчаў са шматвяковай гісторыяй паміраюць бяз знаку. І на што разьлічвае ўлада? На плён ад Году малой радзімы?

Зарэчча і Занявіша, Ляхаўцы і Астапішкі, Чучвы і Квіцеўцы... Тысячы і тысячы спрадвечных беларускіх тапонімаў могуць адысьці ў нябыт разам са старэнькімі хатамі і пакінутымі сялібамі. Захаваць хаця б іх, гэтыя назвы, на якіх узьнікла і вырасла Беларусь. Ня думаю, што беларуская ўлада адважыцца на нейкі мэмарыял кшталту сьцяны з назвамі тысяч пакінутых людзьмі вёсак: гэта быў бы надта празрысты намёк на плён ейнай палітыкі апошніх дзесяцігодзьдзяў, якая ў многім і спрычынілася да гэтай драмы. Хаця б які валун з выбітай на ім назвай на тым месцы, дзе калісьці было жыцьцё, рос хлеб і гадаваліся дзеці.

**Валянцін Жданко**
**Радыё Свабода**

ХАТНІ ГВАЛТ

# ДЗЕ ГВАЛТ У ДЗЯРЖАВЕ, ТАМ ГВАЛТ І Ў СЯМ'І

**Многія ня хочуць разумець, што ў краіне, дзе культывуецца дзяржаўны гвалт, цяжка процідзейнічаць гвалту хатняму.**

Заява Лукашэнкі пра нэгатыўнае стаўленьне да закону аб процідзеяньні хатняму гвалту выклікала моцны грамадзкі розгалас. Дыскусіі не спыняюцца, прыхільнікі закону вырашылі працягваць барацьбу за яго прыняцьце. Але, на мой погляд, на гэтую праблему трэба глядзець значна шырэй. Дарэчы, менавіта так бачыць сытуацыю і сам кіраўнік Беларусі.

Пра тое, што падыход Лукашэнкі да прадстаўнікоў дзяржаўных мэдыяў быў добра зрэжысаваны, сьведчыць якраз сюжэт зь ягонымі развагамі аб праекце гэтага закону. Журналіст, які задаваў пытаньне пра хатні гвалт, адразу стварыў нэгатыўны тон, фактычна акарыкатурыўшы згаданы дакумэнт. То бок ён быў загадзя падрыхтаваны з разьлікам на тое, што Лукашэнка падхопіць гэты тон. І сапраўды, першая рэпліка афіцыйнага лідэра была ў рэзананс з пытаньнем: «Бязглуздзіца поўная».

Наўрад ці Лукашэнка чытаў сам праект закону. Гэтага і не патрабавалася. Кіраўнік Беларусі, як чалавек з вострым палітычным чуцьцём, хутка ўлавіў ідэалёгію, канцэптуальны сэнс гэтага закону. І шчыра абурыўся.

Невыпадкова ён адразу абрынуўся на заходні ўплыў у зьвязку з гэтым законам: «Уся гэтая дурата, узятая найперш з Захаду... Гэта модная цяпер фармулёўка на Захадзе». І меў рацыю. Бо сапраўды, праект закону грунтуецца на заходняй канцэпцыі правоў чалавека, павагі да чалавечай годнасьці, недатыкальнасьці асобы.

дрынаньне гэтай канцэпцыі ў Беларусі ўзьведзена амаль што ў ідэалягічны прынцып, яна разглядаецца як падступная задума дзеля разбурэньня беларускай сацыяльнай мадэлі знутры. «Заходнія каштоўнасьці ня маюць нічога агульнага з мэнталітэтам беларускіх людзей», — казаў некалі Лукашэнка. Вось і цяпер ён найперш акцэнтаваў увагу на тым, што гэты закон не адпавядае «нашым традыцыям» і «нашаму досьведу».

І сапраўды, палітычны рэжым, існая сацыяльная мадэль грунтуецца на зусім процілеглых прынцыпах. Якраз гвалт — тая аснова, той цэмэнт, які замацоўвае функцыянаваньне беларускага аўтарытарызму. Створаная ў Беларусі паліцэйская дзяржава без усеагульнага гвалту існаваць ня можа, ён распаўсюджваецца на ўсе сфэры.

У кіраваньні эканомікай дамінуюць адміністрацыйна-камандныя мэтады. «Кроў з носу» — вось той дэвіз, якім Лукашэнка прапануе кіравацца кіраўнікам эканамічных ведамстваў і дырэктарату. «Ня выканаеш задачу — пасаджу», — ня раз казаў кіраўнік дзяржавы чарговаму няшчаснаму дырэктару прадпрыемства. Дык і шмат жа зь іх пераседзела за кратамі.

Ці вось узгадаем апошні прыклад у Лоеўскім раёне, калі настаўнікаў на іх прафэсійнае сьвята прымусілі парадкаваць жывёлагадоўчыя фэрмы. І як вы думаеце, тыя настаўнікі, вярнуўшыся ў клясы пасьля такой зьнявагі, будуць вучыць дзяцей павазе да чалавечай асобы?

Пра гвалт супраць палітычных апанэнтаў у Беларусі можна пісаць цэлыя тамы. І сам Лукашэнка даваў гэтаму працэсу маральнае абгрунтаваньне. У красавіку 1995 году спэцназ зьбіў апазыцыйных дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Праз год прэзыдэнт краіны пракамэнтаваў гэта так: «Ледзь-ледзь камусьці намялі бакі, дык ужо расплакаліся... Хіба гэта па-мужчынску?» («Народная Воля», 1996, № 80).

Пасьля зьбіцьця спэцназам кандыдата ў прэзыдэнты Аляксандра Казуліна Лукашэнка пад бурныя апладысмэнты дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу ганарліва казаў: «Як далі — так ляцелі ашмёткі па закутках» («Советская Белоруссия», 2006, 3 сакавіка). Крывавы разгон апазыцыйнага мітынгу 19 сьнежня 2010 году кіраўнік дзяржавы на наступны дзень на прэсавай канфэрэнцыі пракамэнтаваў так: «Бачыце, па галаве далі. Ну і што?»

Зразумела, асабістыя якасьці самога Лукашэнкі моцна ўплываюць на ўсе грамадзкія працэсы. Ён ня толькі біў рэменем сына Віктара. Нагадаю, што ў 1989 годзе супраць дырэктара саўгаса «Городец» Аляксандра Лукашэнкі была распачатая крымінальная справа за зьбіцьцё падначаленага мэханізатара. Але яе не давялі да канца, бо тады будучы прэзыдэнт быў дэпутатам. У ягоным лексыконе ўвесь час прысутнічае дэманстрацыя сілы, жорсткасьць, тэрміналёгія «па мордзе даць», «адкруцім галаву», «ногі паадкручваем», «рукі паадсякаем» і інш.

І вось у такой краіне, дзе гвалт узьведзены ў культ, спосаб існаваньня соцыюму, актывісты, якія змагаюцца супраць сямейнага гвалту, імкнуцца стварыць аазіс, выспу павагі да правоў чалавека і чалавечай годнасьці. Неяк саманадзейна. Баюся, ізалявацца ад нораваў, якія дамінуюць у дзяржаве, не атрымаецца. Можа, не з таго канца трэба пачынаць?

**Валер Карбалевіч**
**Радыё Свабода**

ЗДАРЭННІ

# ЗАТРЫМАЛІ З КАНОПЛЯМІ

**26-га верасня ў міліцыю паступіла інфармацыя, што ў жыхара Бешанковіцкага раёна можа быць пры сабе наркатычнае рэчыва.**

Праваахоўнікі пачалі правяраць паведамленне, і яно пацвердзілася.

У 22:20 каля аграгарадка Бачэйкава быў затрыманы беспрацоўны мясцовы жыхар, у якога выявілі каноплі, — паведаміў карэспандэнту БЕЛТА першы намеснік начальніка Бешанковіцкага РАУС Аляксандр Хліманкоў.

У яго ў заплечніку знайшлі больш за 4,9 кг нявысушанай марыхуаны. У дачыненні да мужчыны распачата крымінальная справа па ч.1 арт.328 КК. Раней ён судзімы не быў.

**БелТА**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ТАПІЦЬ АБО НЕ ТАПІЦЬ?

**Сёлета надвор'е ў сярэдзіне кастрычніка стаіць выдатнае. Цэлы тыдзень свеціць сонца, тэрмометр апоўдні паказвае +17+18. А сіноптыкі абнадзейваюць, што і наступны тыдзень пасля Пакроваў будзе такім жа цёплым.**

І ўсё было б выдатна, калі б не ўключанае ацяпленне. Тое, што не шкодзіла пры нармальнай, халоднай восені.

Сёння, 12-га кастрычніка, цэлы дзень у Каранеўскай школе батарэі былі разагрэтымі. А тэрмометры ва ўсіх класах паказвалі +29. Паўсонныя, знямоглыя ад спёкі дзеці прасілі кожны ўрок расчыніць вокны. Прыходзілася расчыняць, каб тэмпература апусцілася на пару градусаў ніжэй.

Вы думаеце, што наша школа выключэнне з правілаў? Ды не. Думаецца, што па ўсяму раёну, вобласці, рэспубліцы ідзе ацяпленне грамадскіх будынкаў па зімовай праграме. Анікога не турбуе, што ў паветра выкідаюцца нашы грошы. "Ды якія там грошы, смех, ды й годзе", - скажуць аптымісты. Я таксама належу да іх, але так не лічу.

У сябе дома я таксама штодзень пратапліваю паравое ацяпленне, але толькі нанач, пасля заходу сонца. І спальваю адну маленькую топку, каб толькі прагрэць батарэі. У пакоях камфортна, +20 + 22.

Не разумею, чаму нельга не тапіць бешанковіцкія кацельныя ўдзень, з 9 да 18 гадзін. Ці мо ў чыноўнікаў у кабінетах уключаныя кандыцыянеры, і ім усё роўна, топяць ці не топяць?

**Г.Станкевіч**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# УСЁ НА КАНТРОЛІ

**Пры пошуку залатой сярэдзіны паміж свабодай і прымусам аўтар «беларускай мадэлі» аддае перавагу прымусу. Размовы пра жорсткасць працоўнай дысцыпліны без ужывання прыметніка «жэстачайшы» ў нас і не вядуцца. Справа дайшла да ўнясення дысцыпліны ў шорт-ліст фактараў, на якіх непасрэдна грунтуецца наша незалежнасць.**




У інтэрв'ю газеце «Завтра» экс-савецкі дысідэнт і філосаф Аляксандр Зіноўеў эканамічныя поспехі Захаду патлумачыў наступны чынам: «Эфектыўнасць заходняй гаспадаркі абумоўліваюць тры законы: рацыянальная арганізацыя справы; жорсткая працоўная дысцыпліна; максімальнае выкарыстанне сродкаў вытворчасці і рабочай сілы. Заходняе грамадства з'яўляецца недэмакратычным, таталітарным у самой сваёй аснове — на ўзроўні ячэек вытворчасці. І менавіта таму яно дэмакратычнае ў надбудове, ідэалогіі. Тут дзейнічае свайго роду закон пастаянства сумы дэмакратызму і таталітарызму».

Думаю, пад такім тлумачэннем без ваганняў падпісаўся б адзіны палітык (АП), які па сумяшчальніцтве — галоўны архітэктар «беларускай мадэлі».

…Нам яшчэ ёсць чаму вучыцца ў заходніх дэмакратый у пытаннях выкарыстання сродкаў вытворчасці і рабочай сілы. Успомнім дах, які працякае, і падлогу, багата пасыпаную пілавіннем, у асірацелых цэхах Аршанскага інструментальнага завода. Але міністраў, у тым ліку прэм'ера, памянялі? Памянялі. А гэта рэальны шанец не толькі адрамантаваць дах, але і замяніць абсталяванне яшчэ савецкай вытворчасці на сучаснае і, магчыма, нават на імпартнае.

Не першы год вядзецца ў нашай краіне і мэтанакіраваная барацьба за 100-працэнтнае выкарыстанне рабочай сілы. У народзе яе ахрысцілі «барацьбой з дармаедамі». Нібы марскія хвалі, дэкрэт накатваецца на дэкрэт, але вынік пакуль не бачны. Але гэта пакуль.

**Раток на замочак, рукі на каленкі**

Пра тое, каб «дагнаць і перагнаць Амерыку» на працягу 73 гадоў марылі ўсе савецкія кіраўнікі. З улікам спецыфікі часу, яны дзейнічалі паводле схемы Аляксандра Зіноўева, і выкарыстоўвалі пры гэтым максімум з даступных ім сродкаў. Аднак разрыў не толькі не скарачаўся, але, наадварот, павялічваўся. Справа дайшла да таго, што сфармуляваны яшчэ правадыром сусветнага пралетарыяту лозунг страціў сваю актуальнасць.

Чаму так атрымалася? Няўжо нягледзячы на грозныя вокрыкі, на практыцы гайкі пастаянна недакручваюцца?

Я паспрабую адказаць на гэта пытанне з дапамогай цытаты, запазычанай з лекцыі дзіцячага псіхолага Юліі Гіпенрэйтар: «Я прыйшла ў Амерыцы на ўрок матэматыкі. Пяты клас. Адзін настаўнік, прыкладна 25 вучняў па класе рассеяныя, нехта сядзіць за партай, хтосьці — на падлозе групкамі, два-тры дзіця стаяць каля дошкі, штосьці адзін аднаму тлумачаць, вырашаюць. То бок, поўная свабода цялесна-прасторавай арганізацыі — і ніякага хуліганства. Няма ўсяго гэтага: стройнымі шэрагамі сядзець па струнцы».

Як сыну вайскоўца, мне давялося вучыцца ў чатырох школах (ад сельскай да сталічнай), але ўявіць вучняў, што сядзяць у час урока на падлозе, я не магу. Варта падкрэсліць прычыну такой неардынарнай цялесна-прасторавай арганізацыі ўрока. Вучням так было зручней ...працаваць. Ні пра якое хуліганства або непаслушэнства пры гэтым не ішло і гаворкі…

**Паміж «акном магчымасцяў» і хаосам безуладдзя**

Зафіксаваны вышэй перакос не варта разглядаць у якасці беларускага ноў-хаў. На працягу тысячагоддзяў права на прымус, кантроль і забароны выступала ў якасці сістэмаўтваральнага элемента ўлады. Так працягвалася да Новага часу, да першай прамысловай рэвалюцыі, старт якой быў дадзены на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў.

Рухаючай сілай прамысловай рэвалюцыі выступіў сацыякультурны тып чалавека, які сёння прынята называць «асобай». Яго крытычная маса і забяспечыла пераход ад статыкі Сярэднявечча да сучаснай дынамікі. Падмацую сказанае цытатай АП, запазычанай з Паслання–2013: «Сучасная цывілізацыя — гэта цывілізацыя пастаяннага паскарэння. Яно адчуваецца паўсюдна — не толькі ў хуткасці з'яўлення новых ідэй, але і ў тэхналогіях, у эканоміцы, у гандлі, у адукацыі, у сродках масавай інфармацыі, у палітыцы, нават у паўсядзённым побыце людзей».

Залатыя словы! Іх бы ўставіць у вушы таму, хто іх зачытаў па паперцы ў Авальнай зале. Зачытаў — і забыўся. Забыўся — і звярнуўся да звыклай тройцы: прымусу, кантролю і забаронаў, спадзеючыся з іх дапамогай адказаць на сучасныя выклікі, у тым ліку і на выклікі пастаяннага паскарэння. Усё лагічна. Улада шукае крыніцы паскарэння не там, дзе іх страціла, а пад ліхтаром, дзе святлей.

АП любіць разважаць пра свабоду, але неяк абстрактна і, як правіла, у звязе з незалежнасцю. Напрыклад, вось так: «Мы ведаем цану свабоды і незалежнасці. Таму так далікатна ставімся да гісторыі, так дбайна адстойваем прынцыпы справядлівасці, сумленнасці і роўнасці».

З такой бы далікатнасцю ставіцца да беларусаў, якія адчуваюць патрэбу ў свабодзе. Дзякуючы іх намаганням і расла эканоміка ў «тлустыя» гады. У Перабудове яны ўбачылі «акно магчымасцяў», чым і паспяшаліся скарыстацца.

На жаль, тое, што стала «акном магчымасцяў» для адных, для іншых абярнулася хаосам безуладдзя. Чалавек, які не адчувае патрэбы ў свабодзе, не можа быць адказным ні за сябе, ні за тое, што адбываецца. Таму з такой прастатой ён і перадаў у 1994 годзе адказнасць за прыняцце рашэнняў уладзе.

За ўладай не заржавела. Калі яна стала на першую прыступку лесвіцы, што вядзе ў балота аўтарытарызму, дык не змагла спыніцца. Усе размовы пра пераходны перыяд, які нібыта патрабуецца для асваення каштоўнасцяў дэмакратыі і рынку, — гэта размовы на карысць бедных. На справе ідзе зваротны працэс…

**Счарнелае «фамільнае срэбра»**

Нагадаю, што, згодна з Зіноўевым, эфектыўнасць заходняй эканомікі абумоўленаяўтымлікужорсткай працоўнай дысцыплінай. Але гэта дысцыпліна асаблівага сацыякультурнага тыпу людзей, якія прызвычаіліся сядзець на падлозе падчас урокаў. Вынікам такой дысцыпліны з'яўляецца паток інавацый, які забяспечвае нябачаную ў гісторыі эканамічную дынаміку.

Яе наглядна ілюструе сярэдні тэрмін, які амерыканскія кампаніі праводзяць у спісе «Fortune-500». У 1964 годзе ён складаў 33 гады, у 2016-м — 24 гады, а, паводле прагнозаў, да 2027-га паменшыцца да 12 гадоў.

У 1987 годзе рынкавы кошт кампаніі IBM — першай у свеце — перавысіў адзнаку ў $ 100 мільярдаў. Але хто з чытачоў НЧ за апошні год сутыкаўся з інфармацыяй пра яе распрацоўкі? Упэўнены, што калі такія і былі, дык у гомеапатычных колькасцях.

Паводле прагнозаў спецыялістаў, праз пяць гадоў спіс часопіса «Fortune» будзе на 75% складацца з кампаній, пра якія сёння шырокая публіка практычна нічога не ведае. Што да Беларусі, то ў спісе добра пацямнелага «фамільнага срэбра» папаўнення не прадбачыцца. За адным выключэннем, мабыць, — АЭС, пра якую АП (паводле яго ўласнага прызнання) «да гэтага часу выразна ніхто не далажыў, як станцыя будзе ўбудавана ў эканоміку краіны».

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**«Новы Час»**

УЛАДА

# ШТО НЯ ТАК З ПРЫЗНАЧЭНЬНЕМ УРАДУ

**Зацьвярджэньне Палатай прадстаўнікоў Сяргея Румаса ў якасьці прэм'ер-міністра адбылося з шэрагам працэдурных парушэньняў, нелягічнасьцяў і недарэчнасьцяў.**

Прэзыдэнцкі ўказ аб прызначэньні Румаса кіраўніком ураду зьявіўся 18 жніўня 2018 году. А ніжняя палата Нацыянальнага сходу зацьвердзіла яго толькі 5 кастрычніка.

У артыкуле 106 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: «Прэм'ер-міністар назначаецца Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусі са згоды Палаты прадстаўнікоў. Рашэньне па гэтым пытаньні прымаецца Палатай прадстаўнікоў не пазьней як у двухтыднёвы тэрмін з дня ўнясеньня прапановы па кандыдатуры Прэм'ер-міністра».

То бок пакуль Палата прадстаўнікоў не зацьвердзіць кандыдатуру прэм'ера, той ня мае права выконваць свае абавязкі. На мой погляд, ніякай іншай інтэрпрэтацыі гэты артыкул Канстытуцыі не дапускае. З моманту выданьня ўказу да дня зацьвярджэньня яго Палатай прадстаўнікоў прайшло 48 дзён (чатыры тыдні), а ня два тыдні, як прадугледжана Канстытуцыяй.

Як вядома, урад у Беларусі — тэхнічны. У тым сэнсе, што ён не вызначае эканамічнай палітыкі. Хоць паводле Канстытуцыі Савет Міністраў «распрацоўвае асноўныя кірункі ўнутранай і замежнай палітыкі», насамрэч ён працуе ў вузкіх рамках, пастаўленых Лукашэнкам. Але каму ў Беларусі цікавая Канстытуцыя?

Калі вызначана кандыдатура прэм'ера, то лягічна, каб ён падбіраў намесьнікаў, міністраў, то бок фармаваў сваю каманду, зь якой зможа рэалізоўваць пастаўленыя задачы. Аднак — не: увесь склад ураду вызначае прэзыдэнт, кіраўнік Савету Міністраў ня мае ў гэтым пытаньні права голасу.

У Канстытуцыі не прапісана, хто канкрэтна прадстаўляе кандыдатуру прэм'ера парляманту. У іншых дзяржавах, нават з прэзыдэнцкай формай кіраваньня, новага кіраўніка ўраду звычайна прапануе дэпутатам прэзыдэнт. Гэтым ён паказвае сваю павагу да парляманту як да асобнай галіны ўлады. І ў Беларусі бывалі выпадкі, калі Лукашэнка прыходзіў у Палату прадстаўнікоў, каб асабіста рэкамэндаваць кандыдатуру прэм'ера. Гэтым разам Сяргея Румаса прадставіла дэпутатам кіраўніца адміністрацыі прэзыдэнта Натальля Качанава. Які парлямэнт, такая і «павага».

Зноў жа, паводле нармальнай логікі, прэм'ер-міністар у момант зацьвярджэньня меў бы прадставіць на разгляд дэпутатаў праграму дзейнасьці ўраду. І парлямэнтары, залежна ад якасьці гэтай праграмы, прымалі б рашэньне, галасаваць «за» ці «супраць».

Але ў Канстытуцыі Беларусі насуперак гэтай логіцы запісана, што прэм'ер «у двухмесячны тэрмін пасьля свайго прызначэньня прадстаўляе Парляманту праграму дзейнасьці Ураду». Сяргей Румас паабяцаў унесьці гэты дакумэнт у Палату прадстаўнікоў не пазьней за 18 кастрычніка. Тады за што цяпер галасавалі дэпутаты? Выступаючы перад дэпутатамі, новы прэм'ер заявіў: «Мы маем намер кіравацца праграмай сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця да 2020 году, прапісаным у якой падыходы і задачы адпавядаюць патрабаваньням часу». Нагадаю, што гэтая праграма прынятая неканстытуцыйным органам — V Усебеларускім народным сходам 23 чэрвеня 2016 году.

Маю падазрэньне, што Сяргей Мікалаевіч ня вельмі дэталёва знаёмы са згаданай праграмай. Бо, напрыклад, яна прадугледжвае рост сярэдняга заробку за пяцігодку толькі на 9,5-11,6%. Аднак Лукашэнка загадаў давесьці сярэдні заробак да 1 тыс. рублёў. У выніку толькі з пачатку гэтага году па ліпень рэальныя заробкі ў краіне вырасьлі на 12,9%. І што зьбіраецца выконваць урад?

Таксама, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў, Румас як прыярытэты ўраду назваў стварэньне спрыяльнага бізнэс-асяродзьдзя і падвышэньне якасьці кіраваньня дзяржаўнымі актывамі, якія пакуль генэруюць фіскальныя рызыкі. «Пакуль ёсьць адчувальныя перакосы ў правільнай матывацыі кіраўнікоў, скіраваныя на што заўгодна, толькі не на эканамічны вынік. Адсюль памылковыя ініцыятывы і непрацічныя інвэстыцыйныя праекты. Гэта вынік многіх гадоў дзяржаўнай падтрымкі», — прызнаў Румас. Аднак ёсьць сумневы, ці дазволіць Лукашэнка рэфармаваць дзяржаўны сэктар.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

# СУСТРЭЛІ СЬВЯТА ПРАЦАЙ НА ФЭРМАХ

**Супрацоўнікі школ Лоеўскага раёну арыгінальна адзначылі прафэсійнае сьвята — Дзень настаўніка. «Раённае кіраўніцтва загадала сёньня працаваць на фэрмах! Прыбіраць, уцяпляць, вымятаць. Абвясьцілі ў нядзелю ўсеагульны суботнік», — паведамілі Свабодзе адзін з настаўнікаў.**

«Гэта поўная зьнявага і прыніжэньне! Так у нас ставяцца да настаўнікаў. Тэлефанаваў калегу — дрэнна чуваць, вецер у слухаўцы. Ён пытаецца: як ты думаеш, дзе я цяпер? Мабыць, на прыродзе, сьвята ўсё ж. Не, кажа, на фэрме — падмятаю», — распавёў Свабодзе Аляксей, калега якога працуе ў Калпенскім дзіцячым садку-школе.

Супрацоўнікі Калпенскай школы на загад «зьверху», з Лоеўскага райвыканкаму, працавалі на прыборцы мясцовай фэрмы. «Аналягічная сытуацыя і з настаўнікамі ў Крупейках, тыя таксама батрачылі сёньня, у сваё сьвята, на фэрме. Так па ўсім раёне. Падымаемзкаленсельскуюгаспадарку», — з сумам зазначыў Аляксей.

Працавалі сёньня на фэрмах настаўнікі, супрацоўнікі сельскіх Дамоў культуры і сельскіх саветаў у вёсках Малінаўка і Ўборак. «У Малінаўцы супрацоўнікі сельскага савету і школы вокны забівалі плёнкамі — рыхтавалі фэрму да зімы, падмяталі, чысьцілі ўсё», — распавялі Свабодзе жыхары вёскі Малінаўка.

У вёсцы Ўборак настаўнікі і супрацоўнікі мясцовага Дому культуры на малочна-таварным комплексе зьбіралі сьмецьце — паперкі, плёнкі, падмяталі.

«Пра тэрміновы суботнік у нядзелю нам стала вядома ў суботу позна вечарам. Такі далі загад. Кажуць — па ўсім раёне так», — зазначыў адзін з жыхароў вёскі Ўборак.

Настаўнікі абураныя, але кажуць з сарказмам: "Натуральна, мы ўсе былі згодныя менавіта так правесьці прафэсійнае сьвята"…

***"Радыё Свабода"***

БЕЛАРУСЬ – РАСЕЯ

# ХОТЕЛА ОСТАВИТЬ ТОЛЬКО С УДОЧКОЙ И КЛЮШКОЙ

**Не странно ли, когда белорусский президент объясняет российскому послу, что суверенитет Беларуси незыблем? Когда с пафосом педалируются прописные вроде бы истины, это всегда напрягает и заставляет искать двойное дно. Вот сегодня Александр Лукашенко, как сообщает его пресс-служба, подчеркнул незыблемость суверенитета Беларуси.**

Звучит красиво, патетично. Но вертятся на языке два наивных вопроса.

Во-первых, с какой стати понадобилось вдруг подчеркивать эту незыблемость на 27-м году независимости Беларуси? Кто эту незыблемость ставит под сомнение?

Во-вторых, почему было сочтено нужным подчеркнуть эту незыблемость именно на встрече 10 октября в Минске с Михаилом Бабичем — новым послом России? Ведь с восточной соседкой у нас, как известно, интеграция на равноправной основе, без всяких там покушений на суверенитет…

**Путин ставил вопрос ребром**

В беседе с Бабичем Лукашенко ссылался на домыслы прессы и всяких «злопыхателей», которые — было употреблено смачное белорусское словце — «плявузгают».

«В XXI веке говорить — как они пишут там — об инкорпорации, включении Беларуси в состав России, просто смешно. И я ни разу от нынешнего президента России этого не слышал, и прошлого, первого президента России», — заявил белорусский официальный лидер.

Что ж, давайте вспомним краткое содержание предыдущих серий.

14 августа 2002 года на переговорах с Лукашенко в Москве Владимир Путин сказал в лоб: «Требуется создание в полном смысле этого слова единого государства». Он предложил в мае 2003-го провести референдум по этому вопросу, в декабре — выборы в единый парламент, «а весной, скажем, в марте 2004 года провести выборы единого главы государства». Плюс было предложено с 2004 года сделать российский рубль единой валютой.

Так что график поглощения Беларуси уже был расписан по месяцам. И ежу было понятно, что во главе единого государства Путин видел отнюдь не Лукашенко. Газета.Ру тогда иронизировала, что последнему в лучшем случае «дадут дачу под Минском, охрану и некоторое содержание, чтобы можно было тихо ловить где-нибудь стерлядь или играть в хоккей».

Нетрудно догадаться, что белорусского руководителя, уже вошедшего во вкус единоличной власти над благодатной страной, перспектива остаться только с удочкой да клюшкой не устраивала ни капельки. Выждав несколько дней, он дал волю эмоциям: «Даже Ленин и Сталин не додумались до того, чтобы раздробить республику и включить в состав СССР... Никто не пойдет на то, чтобы порезать Беларусь на части и включить ее в состав пусть даже братского государства».

**«Сомнут и бесплатно в карман положат»**

Тогда Москва отступила, но от планов не мытьем, так катаньем прибрать Беларусь к рукам не отказалась. Белорусского руководителя начали прижимать с продажей крупнейших активов, что вело бы к постепенному экономическому поглощению. А для большей сговорчивости стали подвешивать кредиты.

В мае 2009 года, после очередного визита Путина (тогда премьера) с командой в Минск и трудного разговора с гостями, Лукашенко, собрав совещание, заявил, что «уже не первый раз создается ситуация, когда нас хотят взять голенькими и голыми руками, бесплатно». И предупредил подчиненных: «Игра затеяна по-крупному, имейте в виду. Выстоим — будет государство. Не выстоим — сомнут и бесплатно в карман положат...»

В нынешнем году мы наблюдаем дежавю. Москва снова подвешивает кредиты, урезает поставки нефтепродуктов, прекращает перечисление денег по схеме перетаможки нефти — и опять ставит условия. Причем складывается стойкое впечатление, что закулисные условия жестче публичных.

И никакая не пятая колонна, а сам Лукашенко в июне нынешнего года, через несколько дней после визита Путина в Минск (совпадение?), так просвещал подчиненных «Мы — на фронте. Не выдержим эти годы, провалимся — значит, надо будет или в состав какого-то государства идти, или об нас будут просто вытирать ноги. А не дай бог, еще развяжут войну как в Украине».

Да, теперь российские официальные лица не предлагают инкорпорацию публично. Но кто знает, что звучит в разговорах без лишних ушей?

…И в целом Лукашенко сегодня так или иначе косвенно отвечал на обвинения российских СМИ и комментаторов. В последние год-два они раскручивают примерно такой нарратив: Батька — ненадежный союзник, заигрывает с Западом и потихоньку взращивает белорусских бандеровцев.

На встрече с Бабичем Лукашенко отверг домыслы, что Беларусь вот-вот повернет-де на Запад, и снова обрисовал себя укротителем националистов. «Вы знаете, прямо скажу, мне поворачивать туда-сюда, наверное, не к месту. Мне — президенту, который уже один раз повернул от ярого национализма и других антироссийских вопросов, проведя референдум в Беларуси, когда народ определялся. И за союз Беларуси и России проголосовало не просто большинство, а подавляющее большинство нашего населения», — заявил белорусский руководитель.

Имеется в виду референдум 1995 года, через который молодой тогда президент провел вопрос о возвращении квазисоветских герба и флага вместо исторических символов. Хотя националисты в Беларуси никогда не правили и вообще не отличались агрессивностью, Лукашенко создал и охотно культивировал миф, что в начале 90-х здесь был-де разгул русофобии и русские уже сидели на чемоданах.

**Так за что голосовали белорусы в 95-м?**

И еще одно уточнение. На референдуме-95 ставился в числе прочих вопрос «Поддерживаете ли вы действия президента Республики Беларусь, направленные на экономическую интеграцию с Российской Федерацией?»

Заметьте: речь шла только об экономической интеграции. И понятно, что уставшие от разрухи белорусы охотно проголосовали за перспективу получать дешевые ресурсы с востока (не особо памятуя поговорку про бесплатный сыр).

Лукашенко же потом, затеяв крупную политическую игру, стал трактовать итоги референдума как карт-бланш на «единение». Многие политологи уверены, что целью этой рискованной игры было занять Кремль после Бориса Ельцина.

Так или иначе, но долго получать дешевые ресурсы за братские поцелуи не вышло. Как видим, уже в 2002-м Путин артикулировал то, до чего не додумались Ленин и Сталин.

Номер не прошел, но опасность, что Москва аккуратно удушит в интеграционных объятиях, осталась…

*(скарочана)*

***Александр Класковский "БЕЛАПАН"***

РЫНАК ПРАЦЫ

# КАКИЕ КАДРЫ В ДЕФИЦИТЕ

**Очередной рекорд: в Беларуси не хватает уже 83 тысячи работников.**

Если сравнивать по регионам, то больше всего вакансий в Минске (около 17,4 тысячи) и Гродненской области (почти 13 тысяч), а меньше всего — в Витебской (около 7,5 тысячи).

**Кто из рабочих больше всего востребован?**

Для водителей автомобилей размещено больше 3750 вакансий (из них около 2070 — с зарплатой до 500 рублей), для трактористов — больше 2070 вакансий, для швей — больше 1910, поваров — 1520, электрогазосварщиков — 1200, электромонтеров по ремонту и обслуживанию электрооборудования — 860.

Для продавцов размещено больше 2180 вакансий. Хватает предложений для строителей: для каменщиков — больше 1560 вакансий, для штукатуров — 1080, для маляров — 910.

**В каких кадрах нуждается медицина?**

Для врачей-специалистов размещено чуть больше 2800 вакансий. Для врачей в банке вакансий нашлось 23 предложения с зарплатой от 1000 рублей. К примеру, в могилевский областной онкологический диспансер требуется онколог-хирург со стажем работы по специальности не меньше 5 лет с высшей квалификационной категорией. Специалисту обещают зарплату от 1130 рублей в месяц. В Минске в 29-ю городскую поликлинику нужен участковый терапевт, заведующий отделением. Специалисту готовы платить от 1000 рублей.

При этом большинство предложений от нанимателей для врачей — почти 1700 вакансий — с зарплатой до 500 рублей. К примеру, в могилевскую детскую поликлинику нужен реабилитолог (заведующий отделением медреабилитации) на зарплату от 450 рублей.

Для медсестер открыто больше 2950 вакансий. Большинство из них (почти 1880 вакансий) — с зарплатой до 400 рублей. В банке значится только 8 предложений с зарплатой от 800 рублей. Среди них, например, — позиция операционной медсестры во 2-й городской клинической больнице в Минске. Для фельдшеров размещено больше 730 вакансий, для фармацевтов — больше 310.

…На начало июля в стране было до 75,2 тысячи вакансий, июня — 69,9 тысячи, на начало мая — 65,7 тысячи.

Для сравнения: на начало этого года в Беларуси насчитывалось 53,6 тысячи вакансий, 2017-го — 36 тысяч, 2015-го — 28,7 тысячи, 2014-го — 33,6 тысячи, 2013-го — 50,5 тысячи, 2012-го — 51,7 тысячи, 2011-го — 48,8 тысячи.

Напомним, уровень зарегистрированной безработицы на 1 сентября этого года составил 0,4 процента и по сравнению с 1 сентября 2017 года (0,7 процента) снизился на 0,3 процентных пункта. На учете в качестве безработных на 1 сентября этого года состояло 16,3 тысячи человек, что на 45,2% меньше безработных, чем за аналогичный период прошлого года (29,7 тысячи человек).

**finance.tut.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.10.2018 у 15.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.